Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 42 (93). Вільня, Чацьвер 19 Трауня 1927 г. Год III

# Сялянская Ніва

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаваньня залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Замаскаваная калёнізацыя.

Ня гледзячы на пратэсты, як беларускага прадстаўніцтва ў Сойме, гэтак сама і самога сялянства на мясцох, калёнізацыя беларускіх зямель прышлымі польскімі элемэнтамі ня спыняецца. Праўда, гэта калёнізацыя прыняла цяпер ужо іншы выгляд, яна ад яўнае і адкрытае перайшла на замаскаваную штучную, а гэтымі замаскаванымі спосабамі робіцца тая самая справа. Замаскованасьць новага спосабу калёнізаваньня нашых зямель выяўляецца ў выкананьні ўрадам „слаўнае" „ўставы аб парцэляцыі і асадніцтве".

Справа ў тым, што згодна з гэтай ўставай, абшарнікі забавязаны тую зямлю, якая перавышае ўстаноўленую ўставаю норму прадаць з вольнае рукі. А калі гэтак, дык можа пры іншых варунках сялянскага дабрабыту, можна было-б скарыстаць з гэтага „дабрадзейства", але-ж галіта беларускага селяніна не дае яму магчымасьці зрабіць гэта. Нельга купіць зямлі, бо няма грошай плаціць абшарніку...

Згодна тае ўставы Зямельны Банк „дапамагае" сялянству купіць зямлю. Дапамагае, але каму? — Толькі не Беларусам, бо для беларускага селяніна крэдытаў няма.

Ня думайце, што Банк проста так і адказаў: Ты Беларус, дык табе не належыць! Не, гэтага нідзе не здарылася!... Але-ж тут дык і праяўляецца ўся штучнасьць калёнізацыі, той калёнізацыі, якая праводзіцца цяпер. Справа ў тым, што самы „працэс", як набыцьця зямлі гэтак сама і здабыцьця крэдыту, гэтак спрытна абгароджаны рожнымі формулкамі і фармальнасьцямі, што ніякія падходы беларускага селяніна не дадуць пажаданых рэзультатаў, бо польскія ўрадоўцы, камбінуючы гэтымі фармулкамі, заўсёды знойдуць спосаб загарадзіць доступ і адхіліць Беларуса ад крэдыту і... ад зямлі.

Устава аб парцэляцыі і асадніцтве як гэтакая, ніякае ролі ня іграе. Усё залежыць ад добрае ці злое волі земскага ўраду. Дык і прыходзіцца бачыць усюды і заўсёды толькі гэтую злую волю, а добрая воля, выяўляецца толькі—Палякам... Той, хто маніцца набыць зямлю за дапамогаю банку ці нават і за свае сродкі, павінен перш-на-перш падаць заяву павятоваму земскаму камісару, ну і прадставіць пры гэтым усе даныя. Сюды ўходзіць і лёяльнасьць, і грамадзянства, і вайсковасьць, і яшчэ многа рожных драбнейшых рэчаў, якія даканаюць селяніна, змучаць яго і пазбавяць зямелькі. Калі-ж з тысячы адзін пераможа гэтыя бар'еркі і дапяецца да права на пакупку зямлі, дык стане перад ім новая сьцяна, у гэтым уся цяжкасьць выяўляецца ў польскасьці абшарніка. Ён гэткую цану запросе, што бедны селянін не здолае даць задатку на'т на адну дзесяціну. І ў канцы ўсіх гэтых канцоў, селянін апусьціць рукі, а тымчасам памаленьку прыяжджаюць выхадцы з над ды з-за Віслы—чыстакроўныя Палякі і забіраюць лёгка і проста „абяцаную зямлю". Ім хутка даецца і дапамога і крэдыт і права на пакупку. І вось гэтакім парадкам калёнізуюцца беларускія землі прышлымі элемэнтамі з этнаграфічнае Польшчы прыносячы і ўліваючы атруту ў адносіны між двумя народамі. Эканамічнае пытаньне — вось найважнейшы дзейнік, які кіруе сучасным жыцьцём, дык і ня дзіва калі, беларускі селянін з больлю на сэрцы крыва глядзіць на таго прыблуду, які забірае ў яго з пад носу — варштат яго працы, крыніцу сродкаў для яго істнаваньня. Гэткім чынам ствараецца ненармальнасьць, паўстае незадаваленьне і забурэньні, паўстае барацьба, хоць пакуль-што глухая, але-ж вачавідная і заядлая...

Барацьба гэта будзе цягнуцца гадамі, але-ж не заціхне, пакуль будзе істнаваць той стан рэчаў, які істнуе цяпер, як сыстэма ўрадаваньня.

Хто выйграе ў гэтай барацьбе? Бязумоўна той за кім права і добрая воля. Разумеецца ня мёртвая літэра права, а тое вышэйшае права, ў сусьвеце, якое можа часамі ігнаруецца злою воляю чалавека, але ніколі ня будзе аканчальным пераможцаю.

Р. Булат.

## Новая правакацыя.

У нядзельным нумары абшарніцка-манархістычнага „Słowa" K. Sm. жорстка і правакацыйна секанўў па беларускай нацыянальна-радыкальнай прэсе. У сваім артыкуле аўтар дамагаецца ад пракурора самых жорсткіх і безапэляцыйных рэпрэсыяў адносна беларускае прэсы і выдае беларускіх аўтараў пад нож... Ён сіліцца стварыць падставу для рэпрэсыяў.

„Надходзіць ліквідацыя „Грамады", гавора аўтар, здавалася-б, што „Сялянская Ніва" мусіла-б толькі цешыцца з таго, што зьнікае заядлы і грозны яе праціўнік і канкурэнт, абмяжоўваючыся якім-колечы дыплёматычным і лёгкім пратэстам для захаваньня дэкарацыі, тымчасам, на перакор усялякай лёгіцы на шпальтах гэтае часопісі распачынаецца гістэрычная прагрaмадаўская кампанія, на толькі гвалтоўная ў сваіх пратэстах, што аж выклікае рад канфіскатаў, уплывае яшчэ некалькі тыдняў, дык і спатыкаем новую „кветку": заклік да збору грошы на рэч „палітычных праступнікаў" (як кожнаму ведама ў 90 проц. камуністых!) і перасыланьня іх (грошаў) на рукі рэдакцыі"!

Дык вось чаго чакалі Палякі ад „Сял. Нівы"! Яны думалі што мы будзем радавацца ад таго, што яны душаць свабодную волю Беларускага Народу, будуючы гэтая свае думкі на тэй палеміцы якая зьяўлялася на шпальтах беларускае сялянскае і грамадаўскае прэсы.

На падобныя-ж нападкі „Dz. W." мы адказалі ў № 34 „Сял. Ніва", што „На наш пагляд увесь Беларускі Народ, гэта—адна сям'я і калі мы ў сваім хатнім жыцьці маем якія-колечы спрэчкі, дык гэта ня можа датыкаць эндэкаў", а цяпер і абшарнікаў ды манархістых, мы спадзяёмся, што толькі палемікаю высьвятлім беларускія справы дасканальна і калі польскі ўрад забараніў аднэй старане легальна істнаваць дык гэтым самым нанёс удар і другой, бо пазбавіў магчымасьці крытыкаваць і абгаварыць ідэалёгію тэй стараны.

Далей, у артыкуле „Słowa" ёсьць закіды, што „Сялянскі Саюз" імкнецца насьлядаваць і перахапіць ідэалёгію Грамады. Што можа быць наіўней гэтага?..

Сялянскі Саюз перадусім мае праграму, а хто, як не ідэалёгія творaць праграму? Дый якое можа быць насьледаваньне, калі праграма Сял. Саюзу паводле сялянскае ідэалёгіі зьявілася раней чым праграма Грамады. Разыходжаньні паміж Сял. Саюзам і Грамадою выяўляліся ў тым, што Сял. Саюз ня веручы ў ніякую арыентацыю цьвёрда стаіць на нацыянальным беларускім незалежніцкім грунце і ў гэтым бачыць адзіную магчымасьць дабрабыту, а Грамада ня веручы ў палітычныя і творчыя сілы Беларускага Народу, бачыла выхад з сучаснага прыкрага і цяжкога палажэньня ў Злучаных Штатах Эўропы пры дапамозе з боку іншых. Лічачы гэта не рэальным і адкідаючы ўсякае лякайства, мы змагаліся з гэтаю нявольніцкаю ідэалёгіяй Грамады.

І калі-б ня польскі ўрад, які перарваў нам гэтае ідэалёгічнае змаганьне, дык бязумоўна наша ідэалёгія з арыентацыяй на самых сябе перамагла-б, а тое, што кіраўнікі Грамады перажылі і адкінулі ўжо некалькі ідэалёгічных арыентацыяў давала нам надзею, што гэтая апошняя арыентацыя на „Злучаныя Штаты Эўропы", таксама як і палянафільская зьнікла-бы і тагды настала-бы пара творчае працы над адбудоваю свайго жыцьця сваімі ўласнымі сіламі. Мы цьвёрда верым, што ніхто не дасьць нам збаўленьня, гэта ўжо паказала мінуўшчына, аб гэтым сьведчыць гісторыя. Ніхто ня быў моцны чужою сілаю.

Мы змагаліся з Грамадою ідэалёгічна, адкідаючы фізычны спосаб барацьбы. Вось дзеля чаго памыліліся Палякі, калі чакалі ад нас прыхільнасьці да ліквідацыі Грамады.

Мы ня дзівімся нападкам на нас польскае прэсы і не баімося, аднак-жа лічым, што тыя выступленьні K. Sm., якія бачылі на шпальтах „Słowa" зьяўляюцца правакацыяй, правакацыяй, якая імкнецца стварыць падставы для новых рэпрэсыяў. Лічым, што гэткі спосаб змаганьня з ідэалёгіяй цэлага народу выяўляе некультурнасьць і неэтычнасьць абшарніцка-манархістычнага пісакі, які у даным выпадку зьяўляецца. K. Sm., бо ніводзен шануючы сябе грамадзянін ня стане займацца правакацыйнымі даносамі.

П. Нікель.

**СЯЛЯНЕ І РАБОТНІКІ!**

**прысылайце афяры на палітычных вязьняў.**

